# Рэзалюцыя Беларускай Рады на засяданьні 18 лютага 1918 г. у Вільні

Прымаючы пад увагу:

1) што бытнасьць падтрымліваных "энтэнтай" дзеля яе палітычных мэт чужацкіх — польскіх — войск[1] на адвечна Беларускіх землях можа ў будучыні аказацца прэцэдэнсам дзеля анэксіі гэтых зямель да Польскага каралеўства або дзеля дамаганьня тэрытарыяльных кампэнсацый у постаці беларускага Беластоцкага округа;

2) што, абвяшчаючы прылучэньне часьці закардоннай Беларусі да Польскай манархіі, польскія войскі выяўляюць гэтак захватныя тэндэнцыі на беларускія землі, і іх чыннасьць з гэтага погляду перастае ўжо быць самаабаронай палякаў ад бальшавіцкай анархіі і прыбірае характар вялізнай палітычнай авантуры, каторая йдзе супроць найбольш жыцьцёвых інтарэсаў беларускага народу і супроць яго жаданьня незалежнасьці;

3) што расейскія войскі, каторыя па загаду расейскага ўраду аружнай сілай перашкодзілі ўтварэньню беларускай нацыянальнай арміі, самі не здалелі ўдзяржаць беларускія землі і блізка зусім пакінулі іх, — значыць, ня споўніўшы перад імі сваіх павіннасьцей і абяцанак;

4) што Беларусь ад XIII да канца XVIII сталецьця была незалежна, творучы разам зь літвінамі асобную дзяржаву (Вялікае Княства Літоўскае), і — пасьля прылучэньня яе гвалтам да Расеі — праз 120 гадоў няволі і ўціску не пакідала дабівацца незалежнасьці нават з аружжам у руках (1812—1905 гг.);

5) што бальшавіцкі ўрад далей вёў палітыку гвалтаў над беларускім народам, даючы яркае выражэньне гэтага ў разгоне Беларускага Кангрэсу ў Мінску, —

Беларуская Рада, аб'яўляючы разарванай дзяржаўную зьвязь між Беларусьсю і Расеяй, выcказывае свае дамаганьні:

1) каб польскія войскі чым хутчэй выйшлі зь беларускіх зямель, на каторых беларускія краёвыя арганізацыі возьмуць пад сваю апеку і меньне, і жыцьце жыхароў;

2) каб пакінутыя на няміласьць долі Беларускія землі за фронтам былі ўраз жа далучаны да акупаванай часьці Беларуска–Літоўскага краю дзеля арганізацыі тут незалежнага дзяржаўнага быту;

3) каб сумежныя з Польшчай спрадвечна Беларускія землі (Беласток—Гродня) ні ў якім здарэньні не былі выключаны з рэшты Краю дзеля далучэньня да Польскага Каралеўства.

Беларуская Рада, апіраючыся на рэзалюцыі Беларускай Канфэрэнцыі ў Вільні 25—26—27/I.1918 (адносныя пункты да гэтага далучаюцца) і на пастанове разагнанага бальшавікамі Беларускага Кангрэсу ў Мінску 19—31/ XII. 1917, зьвяртаецца да ўсіх гасударств, прызнаўшых прынцып самаадзначэньня нацыянальнасьцей, а ў першы чарод да Нямеччыны, каторая мае найболей супольных зь Беларуска–Літоўскім краем эканамічных інтарэсаў, з прызывам аказаць помач у справе адбудовы дзяржаўнай незалежнасьці колішняга Літоўска–Беларускага гасударства (Вялікага Княства Літоўскага), — не ўзіраючыся ў цяперашні разьдзел яго ліняй фронту.

Вільня, 18 лютага 1918 г.

*Антон Луцкевіч*
*Дамінік Сямашка*
протаіярэй *М. Галянкевіч,* ксёндз *Уладыслаў Талочка, Казімер Фалькевіч, Іван Луцкевіч, Дулька, Я. Туркевіч, Язэп Салавей, Янка Станкевіч, М. Пэрскі, М. Родзевіч*